А. Ф. Журба
Н. А. Юрчанка

# ПРАЦОЎНАЕ НАВУЧАННЕ

Падручнік для 2 класа агульнаадукацыйных устаноў
з беларускай мовай навучання

Для работы ў класе

*Зацверджана Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь*

*2-е выданне, перагледжанае і дапоўненае*



Мінск
«Адукацыя і выхаванне»
2010

УДК 331(075.2=161.3)
ББК 3я721
Ж91

**Р э ц э н з е н т :** кандыдат педагагічных навук, дацэнт кафедры эстэтычнай адукацыі факультэта пачатковай адукацыі ўстановы адукацыі «Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка» *С. Ф. Гагарына*

Пераклад з рускай мовы *Л. В. Саламахі, А. У. Бельскай*

## Раздзелы:

 Агульная тэхналогія

 Тэхналогія гаспадарання

 Тэхналогія апрацоўкі матэрыялаў

 Тэхналогія раслінаводства

 Тэхналогія народных рамёстваў

 Выніковы занятак

**Журба, А. Ф.**

Ж91 Працоўнае навучанне : падруч. для 2-га кл. агульнаадукац. устаноў з беларус. мовай навучання / А. Ф. Журба, Н. А. Юрчанка; пер. Л. В. Саламахі, А. У. Бельскай. — 2-е выд., перагледж. і дап. — Мінск : Адукацыя і выхаванне, 2010. — 72 с. : іл.

ISBN 978-985-471-409-7.

УДК 331(075.2=161.3)
ББК 3я721

ISBN 978-985-471-409-7

# ЗМЕСТ

# МАТЭРЫЯЛЫ

Разгледзь і назаві.




Яны нам будуць патрэбны для працы.

# ІНСТРУМЕНТЫ І ПРЫСТАСАВАННІ






Ніткаўцягвальнік



Напарстак



Крэйда

Раскажы, для чаго патрэбны інструменты.







Раскажы, якія патрэбны матэрыялы і інструменты, каб атрымаліся такія вырабы.

# ПРАЦОЎНАЕ МЕСЦА

**Захоўвай парадак на працоўным месцы.**
Засцялі стол цыратай. Справа пакладзі інструменты, якія бяруць правай рукой (1). Злева — інструменты, якія бяруць левай рукой (2). Матэрыялы пакладзі перад сабой (3). Падручнік пастаў на падстаўку (4).




**Захоўвай правілы паводзін і бяспекі.**

Правільна арганізуй працоўнае месца.
Захоўвай у чысціні і парадку працоўнае месца.
Уважліва слухай і выконвай указанні настаўніка.
У час працы будзь уважлівы і не перашкаджай аднакласнікам.
Трымай інструмент так, як паказаў настаўнік.
Выкарыстоўвай інструмент толькі па прызначэнні.

# Зможам зрабіць так і лепш






## ЭТАПЫ ТЭХНАЛОГІІ

1. **Падрыхтоўчы.** Арганізуй працоўнае месца.
2. **Асноўны.** Зрабі выраб.
3. **Заключны.** Ацані сваю работу сам і папытай думку іншых.

1




2



3



# ПАПЕРА І КАРДОН


Чарцёжная


Паліграфічная


Рысавальная


Газетная


Упаковачная


Кардон

**Выконвай правілы работы з нажніцамі.**

Трымай нажніцы ў футляры.







Правільна перадавай нажніцы.



**Выконвай правілы работы з клеем.**








# АПЛІКАЦЫЯ

**Успомні парадак выканання аплікацыі.**
Спачатку размець дэталі аплікацыі. Можна размеціць па шаблоне (1) або трафарэце (2). Можна намаляваць ад рукі (3).




Затым выраж дэталі (4). Раскладзі іх на аснове (5). Наклей на аснову (6).







Зрабі аплікацыю.







# ВОПЫТЫ З ПАПЕРАЙ І КАРДОНАМ

Параўнай уласцівасці.

| **Папера** | **Кардон** |
| --- | --- |
| Што лягчэй рвецца? | |
|  |  |
| Што больш шчыльнае? | |
|  |  |
| Што цяжэй сагнуць? | |
|  |  |
| Што хутчэй намакае? | |
|  |  |

## Работа з кардонам

З кардону можна выразаць розныя фігуркі.





Выраж шаблон па малюнку. Пакладзі шаблон на ліст кардону. Размець па шаблоне. Шчыльна прыціскай шаблон, каб ён не ссунуўся.








Выраж фігурку нажніцамі. Падчас выразання паварочвай ліст кардону, а не нажніцы. Упрыгож фігурку аплікацыяй. Такой фігуркай можна аздобіць падарунак.





# ПАШТОЎКА ДА СВЯТА

Такую паштоўку ты можаш зрабіць сам.



**Падрыхтуй аснову з тонкага кардону.**
Размець лінію згібу з дапамогай трохвугольніка і алоўка. Працісні лінію згібу.




Сагні. Прапрасуй згіб гладзілкай.
Атрымалася аснова для паштоўкі.



# Упрыгажэнне паштоўкі

Зрабі кветку. Зрабі лісток.




Зрабі матылька.




Наклей дэталі на паштоўку. Дадай дробныя дэталі.



# ДЗІВОСНЫЯ ПАЛОСКІ

З прамых палосак можна скласці розныя фігуркі.



**Падрыхтуй палоскі.**




Размець аркуш паперы.

Разрэж. Палоскі гатовы.

**Складзі трохвугольнік.**




Склей канцы палоскі.



## Складзі шасцівугольнік




Калі палоска кароткая, прыклей да яе другую.

**Ствары з сябрамі зорнае неба.**
Папяровыя фігуркі наклей на аснову.






Якія яшчэ фігуры можна скласці з палосак паперы?



# КОЛЕР І ПАЧУЦЦІ

















Якія колеры выражаюць радасць або сум, холад або цяпло? Чым адрозніваюцца мазаікі? Як падрыхтаваць дэталі для вырабу мазаікі?

# ПАПЯРОВАЯ МАЗАІКА

Выканай эскіз для мазаікі. Адрэж некалькі палосак.
Нарэж палоскі на кавалачкі. Намаж клей на аснову.




Наклей кавалачкі паперы на аснову. Прамакні анучкай.









Мазаіка гатова.

Раскажы, якія колеры ты выбраў. Чаму?

# ТЭАТРАЛЬНЫЯ ДЭКАРАЦЫІ

Для афармлення сцэны патрэбны розныя дэкарацыі.

**Зрабі бярозу.**




Падумай, як зрабіць елку, яблыню.

**Зрабі хатку.**

Склей трубачкі з паперы — гэта будуць бярвенцы для хаткі.







Збяры хатку.
























Зрабі дах, акенцы і наклей на хатку.

**Зрабі агароджу.**











# АРЫГАМІ

Арыгамі — гэта складванне фігурак з паперы.





Такія розныя фігуркі збіраюць з аднолькавых дэталяў — модуляў.

Складзі трохвугольны модуль.

1

2

3

4

5

6

7

8

9

Модуль гатовы.

Разгледзь модуль. У яго ёсць два ражкі і дзве кішэні.




Зрабіце з аднакласнікамі шмат рознакаляровых модуляў. Збярыце вазачку. Злучыце модулі. Ражок аднаго модуля ўкладайце ў кішэню другога.






# КАРОБАЧКА

Складзі базавую форму «квадрат».




Атрымалася базавая форма для складвання каробачкі.




Паўтары дзеянні 8, 9.




Паўтары дзеянні 11, 12, 13.




Каробачка гатова.

Гатовую каробачку ўпрыгож аплікацыяй.



# ТКАНІНЫ

Тканіны атрымліваюць з валокнаў раслін. З баваўны (1) робяць баваўняныя тканіны. З ільну (2) робяць ільняныя тканіны.








З тканіны шыюць розныя рэчы. Параўнай паперу і тканіну.



| Папера | Тканіна |
|---|---|
| Што рвецца лягчэй? | |
|  |  |
| Што мякчэй? | |
|  |  |
| Што мнецца менш? | |
|  |  |

# Інструменты для работы з тканінай







Ніткі для шыцця і вышывання

**Адгадай загадкі.**

Зусім маленечкая я,
Танюткая і вострая.
Носам шлях сабе шукаю,
За сабою хвост цягаю.

Інструмент цудоўны ёсць,
Ён у кожным доме госць.
І стрыжэ, і рэжа ён,
Ад яго заўсёды плён!

Вышывай і шый, іголка,
Не рабі ты пальцу колка.
А напарстак-мацачок
На дзявочы пальчык скок!
Шыць, іголка, паспявай,
Толькі пальчык не чапай!





**Выконвай правілы бяспекі.**
Трымай іголкі ў igольніцы.
Не ўколвай іголкі ў адзенне.
Не бяры іголкі ў рот.
Шый толькі з напарсткам.
Не пакідай на працоўным месцы іголку без ніткі.
Да работы і пасля яе правярай колькасць іголак.



# СУРВЭТКА ДЛЯ СНЯДАНКУ

**Раскраі сурвэтку.**
Раскладзі тканіну на стале. Пакладзі лякала на тканіну. Размець тканіну па лякале крэйдай або алоўкам.









Выкраі сурвэтку па лініі разметкі. Не падымай тканіну са стала.

**Па баках сурвэткі зрабі махры.**



# Вышыванне ўзору на сурвэтцы

Выберы ніткі такога колеру, каб сурвэтка атрымалася прыгожая.







Правільна адмерай даўжыню ніткі. Уцягні нітку ў іголку. Табе дапаможа ніткаўцягвальнік.











Завяжы вузельчык на канцы ніткі.









## Рознакаляровыя ўзоры

Узоры бываюць розныя. Вышыўка можа рабіцца ўздоўж чатырох бакоў (1). Узорам можна ўпрыгожыць цэнтр сурвэткі (2). Узор можна вышыць у ражку (3).




Узорам уздоўж двух бакоў упрыгожваюць ручнікі.



## Шво «ўперад іголку»




Прашый на тканіне шво «ўперад іголку». Замацуй нітку на тканіне.

Можнаператварыць шво «ўперад іголку» ў хвалю, ланцужок, шнурочак.

Падбяры нітку іншага колеру для ўзору на сурвэтцы.
Адмерай даўжыню ніткі і ўцягні нітку ў іголку.
Замацуй нітку на тканіне каля вышытага шва.




Ператвары шво ў **хвалю**, як паказана на малюнку.




Хвалю ператвары ў **ланцужок.**




Шво «ўперад іголку» ператвары ў **шнурочак.**




Чым шнурочак адрозніваецца ад хвалі?

# ПЛЯЦЕННЕ

Такія цуды майстрыхі робяць са звычайных нітак.





Для працы можна ўзяць ніткі featuring рознага колеру.
Спляці коску з трох пасмаў.



Канец коскі можна завязаць вузельчыкам.
Ты ўжо ўмееш рабіць кутасік з нітак.
Такім кутасікам можна ўпрыгожыць коску.








## Варыянты выкарыстання коскі








Прыдумай свае варыянты выкарыстання коскі.

# ПЕРАТВАРЭННЕ КУТАСІКА

Успомні і раскажы, як робіцца кутасік.




## Ператварэнне кутасіка ў ляльку

Зрабі кутасік. Раздзялі на пасмы. Перавяжы іх. Падрэж на патрэбную даўжыню. Атрымалася лялька.



# Фігуркі лялек: дзяўчынка і хлопчык



# КАНСТРУЯВАННЕ З ПРЫРОДНЫХ МАТЭРЫЯЛАЎ


Галінкі дрэў


Суквецце лопуху


Пяро


Кара


Жалуды


Лясны арэх


Грэцкі арэх


Каштан


Сасновыя шышкі


Хвоя (ігліца)


Яловыя шышкі

З якіх прыродных матэрыялаў можна зрабіць такія фігуркі жывёл і птушак?











## Дрэва










## Птушка













## Караблік

Падбяры прыродны матэрыял і зрабі караблік.







Падумай, што яшчэ можна зрабіць з арэхаў.

# КАЛАБОК

Жылі-былі дзед і баба. Зрабі фігурку дзеда.






Скачала баба калабок, спякла яго.

Падумай, падбяры матэрыялы і зрабі фігурку бабы. Зрабі калабка.

Сустрэў калабок зайца. Зрабі фігурку зайца.



Сустрэў калабок ваўка. Зрабі фігурку ваўка.







Сустрэў калабок мядзведзя. Падбяры матэрыялы і зрабі фігурку мядзведзя.





Сустрэў калабок лісу. Зрабі лісу.













Прыдумай свой працяг гісторыі калабка.

# ПЕРАТВАРЭННЕ КАРОБАЧКІ



Існуе шмат каробак. Яны бываюць рознага памеру і формы. З каробак можна зрабіць цацкі.







З дзвюх каробак можна зрабіць забаўнага звярка. Адна каробка — галава, другая — тулава. Наклеім дэталі вачэй, вушэй, носа, рота, лапак, хваста.





Пачкі з-пад запалак лёгка ператварыць у машынку ці паравозік. Коламі могуць стаць кружочкі з кардону.

Можна зрабіць тэлевізар або камп'ютар для лялькі.



# Пеўнік — залаты грабеньчык

Падбяры каробкі.

**Абклей каробкі каляровай паперай.**




На аркушы паперы абвядзі алоўкам адзін бок каробкі. Павярні каробку на іншы бок. Абвядзі яго. Зноў павярні каробку і абвядзі.




Атрымалася разгортка. Выраж яе. Намаж клеем паперу. Абклей каробку. Падрыхтуй яшчэ адну каробачку, але меншага памеру.
Склей дзве каробачкі разам. Намалюй і выраж з паперы дэталі вачэй, дзюбы, крылаў, грабеньчыка, хваста. Наклей іх на каробачкі.









# ПЕРАТВАРЭННЕ ЁМІСТАСЦІ

Падумай, як можна выкарыстаць такія ёмістасці.



З якой ёмістасці зроблена кожная з гэтых вазачак?



Ёмістасць можна ператварыць у смешнага чалавечка. Вазьмі ёмістасць патрэбнага памеру. Зверху прыклей палоску пластыру. Ля асновы прыклей другую палоску пластыру.



На пластыр наклей шпагат. Карыстайся клеем ПВА. Абкруці ёмістасць шпагатам. Шпагат павінен ляжаць вельмі шчыльна.




Прыклей канец шпагату да пластыру.
Зрабі са шпагату рукі і ногі. Наклей іх на ёмістасць.




Намалюй і выраж з паперы дэталі вачэй, рота, носа. Наклей іх на ёмістасць.



# ВЫЦІНАНКА

Выцінанка — гэта ўзор, выразаны з паперы. У даўніну выцінанкамі ўпрыгожвалі вокны, дзверы, сцены.



У наш час выразаюць сняжынкі да Новага года. Выцінанкамі ўпрыгожваюць паштоўкі, падарункі, кнігі. Вялікімі выцінанкамі ўпрыгожваюць інтэр’ер.









Успомні і раскажы, як робіцца выцінанка.

# Сняжынка




Складзі паперу. Падумай, які ражок трэба зрэзаць, каб у цэнтры сняжынкі атрымаўся выраз.

Што атрымаецца ў цэнтры, калі зрабіць розныя зрэзы? Зрабі і правер.





Падумай, як трэба зрэзаць ражкі, каб атрымаліся выразы па баках сняжынкі. Зрабі і правер.

Якая форма сняжынкі табе падабаецца больш? Выраж свой узор.



# РАЗГАДАЙ ВЫЦІНАНКУ





Узор рытмічны, паўтараецца шмат разоў. Такая выцінанка называецца **рапортнай.** Папера складаецца гармонікам.









На малюнку ёсць сіметрыя. Такая выцінанка называецца **сіметрычнай.** Папера складаецца папалам.

Узор сіметрычны і паўтараецца па крузе. Такая выцінанка называецца **разеткавай.** Папера складаецца на ражок.

Разгадай, як складаў майстар паперу для выцінанак.













# Выразанне выцінанкі

Складзі паперу папалам. Намалюй узор. Выраж.





Складзі паперу ражком. Намалюй узор. Выраж.





Разгледзь выцінанкі. Складзі паперу. Якую частку ўзору трэба намаляваць? Намалюй узор. Выраж.




# ПАПЯРОВЫ КАРАГОД

Рапортная выцінанка падобная на папяровы карагод. Малюнкі — як удзельнікі карагоду. Яны быццам трымаюцца за рукі.



Успомні і раскажы паслядоўнасць выразання рапортнай выцінанкі.




Мастак намаляваў узоры. Разгледзь іх. Вызнач, ці атрымаюцца з іх папяровыя карагоды. Чаму?





# Выразанне выцінанкі

Складзі паперу гармонікам. Намалюй узор. Выраж.






Разгледзь рапортныя выцінанкі. Складзі паперу. Якую частку ўзору трэба намаляваць? Намалюй узор. Выраж.





# ФЛАРЫСТЫКА

Разгледзь і назаві.

Насенне ясеня Дуб Вярба

Асіна Клён

Рабіна Ліпа Бяроза Яблыня

Казялец Рамонак Васілёк (валошка) Незабудкі

Шыпшына Пялёсткі лілеі Браткі Календула

Фларыстыка — гэта састаўленне кампазіцый з сухіх раслін.







# Віншавальная паштоўка

Паштоўку можна ўпрыгожыць лісцем і кветкамі.





Падрыхтуй аснову. Падбяры расліны. Зрабі кампазіцыю на падрыхтаванай аснове.

1



2



3



4



**Наклей расліны на аснову.** Намаж клей у трох месцах. Спачатку наклей вялікія расліны. Затым наклей маленькія расліны.

5




6




# ПЕЙЗАЖ З ВОСЕНЬСКАЙ ЛІСТОТЫ

Мастакі малююць пейзажы. А мы зробім кампазіцыю з восеньскай лістоты і кветак.





Лісток падобны на крону дрэва. Дрэвы, якія стаяць бліжэй на нас, — вялікія. Яны знаходзяцца ніжэй на аркушы паперы. Дрэвы ўдалечыні — меншыя і размешчаны вышэй.

Зрабі кампазіцыю з сухіх раслін.
Памятай: кампазіцыя не павінна распадацца на некалькі частак.

Якая кампазіцыя зроблена правільна?







Выберы аснову. Блакітная папера падобная на неба і ваду ў возеры, зялёная — на траву.

Прыдумай кампазіцыю. Падбяры раслі-ны і зрабі пейзаж на аснове. Лісткі можна накласці адзін на адзін.




**Наклей расліны на аснову.** Каб захаваць кампазіцыю, адзнач алоўкам па некалькі кропак вакол кожнай расліны. Спачатку наклей лісце, якое ўдалечыні. Потым тое, што бліжэй да нас.





Такой кампазіцыяй ты можаш упрыгожыць свой пакой. Самы прыгожы пейзаж падары.

# ПЕРАТВАРЭННЕ ЛІСЦЯ

Разгледзь і параўнай відарысы матылька і парсючка.





Якое лісце выкарыстаў мастак?

Дапоўні відарысы стракозы і кураняці.





Якое лісце ты выкарыстаў?

З восеньскай лістоты можна стварыць казачны куток прыроды. Разгледзь яго жыхароў. З якога лісця яны зроблены?



Ствары з аднакласнікамі куток прыроды. Пасялі ў ім казачных жывёлін, залатую рыбку, жар-птушку.

# ЗАЛАЦІСТАЯ САЛОМКА

Такія цуды робяць майстры са звычайнай саломкі.









Для работы выкарыстоўваюць саломку ад розных раслін.
Падрыхтуй саломку да работы. Разрэж на часткі. Абчысці.




Паназірай, што адбываецца з саломкай.

## Вопыты з саломкай

| Сагні саломку. | Сцісні саломку. |
|---|---|
|  |  |

Разрэж саломку.





# СНАПОК

Збяры пучок саломінак. Дадай каласкі ў сярэдзіну пучка. Перавяжы саломінкі.




Падраўнуй саломінкі знізу. Акуратна расхіні саломінкі зверху. Перавяжы снапок прыгожай стужкай.



# СОНЕЙКА

Зрабі сонейка.

1 КЛЕЙ

2

3 КЛЕЙ

4

5

6

7

8

Сонейка можна ўпрыгожыць аплікацыяй.



# АПЛІКАЦЫЯ З САЛОМІНАК

З саломінак можна зрабіць аплікацыю.



Выберы аснову — кардон цёмнага колеру. Прыдумай кампазіцыю аплікацыі.

Адрэж саломінкі патрэбнай даўжыні. Для аплікацыі можна выкарыстоўваць доўгія і кароткія кавалачкі.



Раскладзі саломінкі на аснове.



Саломінкі можна прыклеіць па-рознаму.

1




2








Здымай з асновы па адной саломінцы.
Змаж саломінку клеем. Прыклей на аснову.
Спачатку наклей доўгія саломінкі, потым кароткія.





# САЧЫ ЗА СВАІМ ЗНЕШНІМ ВЫГЛЯДАМ





Штораніцы мый рукі і твар, чысці зубы, прычэсвайся.





У школу хадзі акуратна прычасаны.



1



2



3



4

Сачы за сваім адзеннем і абуткам.
Адзенне захоўваюць на вешалцы (1). Адзенне чысцяць шчоткай (2). Адзенне мыюць (3). Адзенне прасуюць (4). Абутак змазваюць крэмам і націраюць да бляску (5). Штодня абутак праціраюць ад пылу.



5

Чысці туфелькі старанна
І касцюмчык беражы.
Твар і рукі мый пад кранам
І з грабеньчыкам дружы.



# УПРЫГАЖЭННІ ДА СВЯТА

Ёлку можна ўпрыгожыць цацкамі з паперы.

1





3


4


5


6


1





2





3








Падрыхтуй палоскі з каляровай паперы.




Прыдумай і зрабі новыя ўпрыгажэнні для ёлкі.

# ПАДАРУНКІ

Падумай, што можна падараваць сябрам, бацькам.
Які падарунак ты можаш зрабіць сам?






Падарунак трэба прыгожа ўпакаваць. Для гэтага выкарыстоўваюць маляўнічую паперу з узорамі. Упакаваныя падарункі ўпрыгожваюць стужкамі, кветкамі.




Паўтары дзеянні 4—7 з другога боку.



## Уручаем падарункі



Як правільна ўручаць падарунак? А як прымаць? Дапамажы героям ілюстрацый. Падкажы, хто з іх робіць няправільна, а хто правільна. Раскажы чаму.













# РАСЛІНЫ Ў НАШЫМ ДОМЕ

Якія віды раслін ты ведаеш?






Дзе ў пакоі можна размясціць расліны?



Расліны лепш ставіць групамі.



# Догляд раслін

Расліны неабходна рэгулярна даглядаць. Паліваць, праціраць лісткі, апырскваць, правільна расстаўляць.
Кожная расліна мае свае асаблівасці. Іх трэба ведаць. Тады кветка будзе прыгожай, здаровай.

**Фіялка**





**Прымула**





**Традэсканцыя**





Паназірай за пакаёвымі раслінамі на працягу дня.
Як яны выглядаюць раніцай, днём, вечарам?

# МАЙСТЭРНЯ ПАДАРУНКАЎ

Прайдзі па дарожцы-тэхналогіі. Якая кветка ў цябе атрымалася?



Раскажы, якія правілы неабходна захоўваць у час працы.



# Такія вырабы мы зрабілі














Малайчына! У цябе залатыя рукі.

# ЛЕТНІЯ НАРЫХТОЎКІ

У сухое надвор'е збяры лугавыя травы, калоссе, дэкаратыўныя расліны.



Брыза (дрыжнік)



Луннік



Авёс



Геліхрызум (сухацвет)



Стаціца



Ружа



Нігела (чарнушка)



Вострына



Ячмень



Сушы расліны ў сухім цёмным месцы.





Вучэбнае выданне

**Журба** Аляксандр Фёдаравіч
**Юрчанка** Наталія Аляксандраўна

# Працоўнае навучанне

Падручнік для 2 класа агульнаадукацыйных устаноў
з беларускай мовай навучання

Для работы ў класе

2-е выданне, перагледжанае і дапоўненае

| | |
|---|---|
| Рэдактар | *А. У. Бельская* |
| Мастацкі рэдактар | *В. А. Праходская* |
| Мастакі вокладкі | *В. К. Жалудкова, В. Я. Каляскова,* |
| | *В. А. Праходская, К. К. Шастоўскі* |
| Мастак | *Н. Ф. Харытонава* |
| Камп'ютарны набор | *А. У. Бельская* |
| Камп'ютарная вёрстка | *В. А. Праходская* |
| Карэктар | *А. У. Бельская* |

Падпісана ў друк 04.11.2010. Фармат $60 \times 90\ ^1/_8$.
Папера афсетная № 1. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 9.
Ул.-выд. арк. 7,8. Тыраж 8 630 экз. Заказ

РУП «Выдавецтва “Адукацыя і выхаванне”».
ЛИ № 02330/0552540 ад 10.04.2007.
Вул. Будзённага, 21, 220070, г. Мінск.

ААТ «Паліграфічны камбінат імя Якуба Коласа».
ЛП № 02330/0150496 ад 11.03.2009.
Вул. Чырвоная, 23, 220600, г. Мінск.

## ЛІНІІ ЧАРЦЯЖУ











## УМОЎНЫЯ ЗНАКІ АРЫГАМІ

| | |
|---|---|
| Згіб гарой | Згіб далінай |
| Сагні і разгладзь | Перавярні |
| Цягні, валачы | Паўтары дзеянне з адваротнага боку |
| Увагні ўнутр | |
| 1 2 3<br>Раскрый | |